Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

31 (539) 5 жніўня 2010 года

Кошт **свабодны**

Пляжны валейбол на воз. Бяглец.

Фота Я. Самсонава

## Äçåíü çà äí¸ì

**З пачатку года ў студзені-маі рэальная зарплата ў Беларусі вырасла на 2,9 %, а колькасць беспрацоўных па краіне знізілася да рэкордных паказчыкаў – 38,9 тысяч чалавек. Праўда, многія беларусы не рэгістрыруюцца ў цэнтрах занятасці з-за сціплых памераў дапамог па беспрацоўю. Як пацвердзіла кіраўніцтва Нацбанка РБ, ваганні курса беларускага рубля айчыннай валюты да канца 2010 года будуць заставацца ў калідоры +/- 2-3 % у адносінах да кошыка асноўных валют. У сярэдзіне лета ў краіне ў чарговы раз падаражэлі па прапанове Мінсельгасхарча гарэлка разам з закускай.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**ЗША.** З чарговай спробы інжынерам кампаніі BP удалося пры дапамозе спецклапана поўнасцю спыніць уцечку нафты з пашкоджанай свідравіны ў Мексіканскім заліве.

**Расія.** Вялікую частку краіны накрыла анамальная спёка, у 17 рэгіёнах РФ – моцная засуха, загінулі пасевы, расійскі ўрад выграшыў дапамагчы моцна пацярпелым раёнам.

**Кітай.** Прэм'ер Дзяржсавета КНР Вэнь Цзябао прызнаў, што краіну чакае спад тэмпаў росту эканомікі і існуе шмат праблем, цэны акцый кітайскіх кампаній істотна рухнулі.

**Францыя.** Нацыянальны сход краіны прыняў законапраект, які забараняе жанчынам-мусульманкам насіць у грамадскіх месцах адзенне, якое поўнасцю закрывае яе твар.

**Украіна.** Для насельніцтва краіны са жніўня кошт прыроднага газу павялічыўся на 50 %, гэта было ўмовай атрымання антыкрызіснага крэдыту МВФ, раней ён даражэў на 35 %.

**Бразілія.** Прэзідэнт Луіс да Сільва прапанаваў кангрэсу краіны разгледзець законапраект аб забароне любых цялесных пакаранняў малых дзяцей, узмацненні адказнасці іх бацькоў.

**Германія.** Грамадскасць і нямецкая прэса заклікалі ўрад услед за Швецыяй пайсці на адмену ўсеагульнай воінскай павіннасці, перайсці на добраахвотную кантрактную армію.

**Эстонія.** Па цяпер дзеючаму курсу – 15,6 кроны за еўра краіна стане з 1 студзеня 2011 года 17-м па ліку ўдзельнікам зоны EUR, так вырашыў Савет міністраў фінансаў ЕС.

**Іран.** У выніку двух выбухаў у мячэці горада Захедан загінула больш 20 мусульман-шыітаў і 100 атрымалі раненні, злачынцамі сталі тэрарысты з групоўкі суннітаў.

**Данія.** Паводле сусветнага апытання, самыя шчаслівыя людзі ў свеце – датчане, дзе 82 % жыхароў "працвітаюць", Беларусь апынулася на 54-м месцы, а 29 % - шчаслівыя людзі.

**Украіна.** На прадстаячых 31 кастрычніка мясцовых выбарах былы прэм'ер Ю. Цімашэнка ўзначаліць не блок "БЮТ" свайго імя, а выдомую палітычную партыю "Бацькіўшчына".

**Расія.** Прэзідэнт РФ Д. Мядзведзеў заявіў аб карэннай змене знешняй палітыкі краіны, для Масквы ключавымі партнёрамі сталі ЗША і ЕС, краіны СНД і Беларусь па- за спісам.

**Швецыя.** Буйнейшую шведскую кампанію HD-Resources выбралі для афармлення сцэны для Міжнароднага дзіцячага конкурса "Еўрабачанне-2010", які пройдзе 20 лістапада ў РБ.

**Літва.** Частку водпуска прэм'ер-міністр краіны Андрус Кубілюс разам з жонкай правялі ў велапрабегу па Беларусі з наведваннем Ліды і Нясвіжа, далей паехалі ў Германію.

**Кітай.** На сусветнай выставе "ЭКСПА-2010" толькі павільён нацыянальнай экспазіцыі Беларусі наведалі звыш 2 млн. наведвальнікаў, штодзень сюды прыходзяць 33 тысячы.

# Ïàäçåі, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** У новым жылым мікраполісе "Каскад" здалі першы шматсекцыйны 170-кватэрны дом, тут упершыню ў РБ будзе камп'ютарная сістэма кантролю ўсіх інжынерных сістэм.

**Бабруйск.** Пад уплывам крызіса на буйнейшым у горадзе ААТ "Белшына" колькасць работнікаў на працягу года знізілася на 9 %, працу страцілі там амаль 1400 чалавек.

**Мінск.** З бруднай антыбеларускай прапагандай параўнаў А. Лукашэнка шэраг сюжэтаў на асноўных расійскіх тэлеканалах ГРТ і РТР і паказаны НТБ фільм "Крёстный батька-2".

**Ліда.** Мясцовы ліцейна-механічны завод выставілі на адкрыты конкурс па продажу акцый, да пошуку інвестараў упершыню ў Беларусі прыцягнулі міжнародных кансультантаў.

**Магілёў.** У горадзе ўрачыста адкрылі SOS-Дзіцячую вёску на 80 дзяцей, дзе новых мам пад сямейным дахам знайшлі пакуль 22 дзіцяці, усяго ў вобласці цяпер 900 дзяцей-сірот.

**Мінск.** Супраць адразу трох выкладчыкаў адной з кафедр БНТУ узбуджаны крымінальныя справы за атрыманне хабару ад студэнтаў праз пасрэднікаў за спрыянне здач экзаменаў.

**Брэст.** На рацэ Заходні Буг пачаў несці службу новы хуткасны патрульны кацер айчыннай вытворчасці мясцовай пагрангрупы, бо хапае тут жадаючых трапіць у Польшчу.

**Мінск.** Сярэдняя зарплата працуючага мінчаніна дасягнула ў эквіваленце 500 $ у месяц, у іншых абласцях краіны выканаць такое даручэнне кіраўніка сёлета будзе праблематычна.

**Жабінка.** Райпракуратура распачала крымінальную справу супраць супрацоўніка ДАІ, які ў нецвярозым стане каля горада збіў насмерць веласіпедыста і знік з месца здарэння.

**Лагойск.** Адразу 6 жывёлаводаў ТАА "СНБ-агра" трапілі ў бальніцу пасля гібелі на ферме гаспадаркі цяля ад шаленства, гэту ферму закрылі на каранцін, правялі дэзінфекцыю.

**Ліда.** Магутны смерч пранёсся праз сталіцу прадстаячых "Дажынак", за некалькі хвілін у горадзе было вырвана з зямлі больш 600 дрэў, сарваны дахі з дамоў, ранены 3 жыхары.

**Калінкавічы.** На месцы былога канцлагера ля пасёлка Азарычы, дзе загінула вайной 10 тысяч чалавек, адкрылі мемарыяльны знак і капліцу ў памяць бязвінных ахвяр генацыду.

**Жлобін.** У тэхнічным вадаёме глыбінёй 1,3 метра каля вясковых могілак патануў п'яны малады мужчына, яго сяброўку выратавалі дзеці, за тыдзень у вобласці патанулі 15 асоб.

**Мінск.** Незадоўна перад пачаткам сезона быў расфарміраваны вядомы хакейны клуб "Керамін", яго ігракам і трэнерам патлумачылі, што яны ў беларускай лізе лішнія.

**Слонім.** Моцны дождж з ураганным ветрам вельмі пашкодзіў вёску Сялявічы, паламаў лес, паклаў збожжа, на могілках стыхія вырвала дрэвы з корнямі, пашкодзіла помнікі.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Наваполацк.** Першая партыя венесуэльскай нафты "Santa Barbara" у аб'ёме 80 тысяч тон прыбудзе на ААТ "Нафтан" транзітам 851 км праз порт Эстоніі Муўга па чыгунцы.

**Віцебск.** Буйнейшы ў вобласці радзільны дом № 1 абзавёўся сучаснай лабараторыяй коштам 230 млн. рублёў для выяўлення розных інфекцый пры ўскладненнях у пацыентак.

**Новалукомль.** Па просьбе гараджан Чашніцкая міжраённая гандлёвая база адкрыла ўслед за райцэнтрам магазін "Дыскорнт" у горадзе энергетыкаў з сістэмай зніжак на тавары.

**Віцебск.** Падчас чарговага Міжнароднага інвестыцыйнага форума інвестарам было прапанавана больш 40 зямельных участкаў для будаўніцтва і новых вытворчасцей.

**Орша.** Буйны інвестар з Ган-Конга выказаў зацікаўленасць стварыць буйны транспартна-лагістычны цэнтр па суседству з мясцовым авіярамонтным заводам на яго аэрадроме.

**Віцебск.** Толькі 4 юныя атлеты з Віцебшчыны трапілі ў склад зборнай Беларусі, якая ў сярэдзіне жніўня выступіць у Сінгапуры на І-х летніх юнацкіх Алімпійскіх гульнях.

**Шуміліна.** Падчас 2-га этапа маніторынга стану спраў на месцах са зваротамі грамадзян на прыём у райцэнтры прыйшло 20 жыхароў , паступіла яшчэ 40 тэлефонных званкоў.

**Віцебск.** У абласным цэнтры ўрачыста адкрылі спецыялізавана Беларускі Банк Малога Бізнесу з нізкімі тарыфамі на абслугоўванне прадпрымальнікаў і дзелавых людзей.

**Дуброўна.** У былым дзетсадзіку аграгарадка Зарубы пасля рэканструкцыі адкрылася ўрачэбная амбулаторыя з 4 ложкамі дзённага стацыянара, лабараторыяй, зубным урачом.

**Чашнікі.** Раней судзімы, 37-гадовы жыхар райцэнтра абрабаваў ювелірны магазін у Мінску, але там параніў руку і неўзабаве быў затрыманы міліцыяй з палічным і нажом.

**Віцебск.** На тэрыторыі свабоднай эканамічнай зоны "Віцебск" пачаліся будаўніча-мантажныя работы па размяшчэнню СП з Расіяй па зборцы з восені спецмікрааўтобусаў.

**Шуміліна.** Па ініцыятыве Обальскай СШ прайшло першае экалагічнае свята мясцовага балота плошчай 1096 га, уключанага ў Праграму развіцця ААН, з паруснай рэгатай.

**Лепель.** Да чарговага Дня горада 11 верасня ў райцэнтры ля ўваходу ў гарпарк установяць помнік вядомаму дзеячу ВКЛ князю Льву Сапегу, які выкупіў тут зямлю і заснаваў горад.

**Орша.** Музей творчасці У. Караткевіча арганізаваў 6-дзённую водную акцыю на катамаранах па рацэ Днепр адсюль да горада Рагачова, прысвечаную юбілею пісьменніка.

**Віцебск.** Вядомая фірма "Белвест" зрабіла цікавы рэкламны ход і пааб'яцала абуць усіх удзельнікаў конкурса эстраднай песні на "Славянскім базары ў Віцебску".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**114 $** столькі долараў неабходна яшчэ да канца года дабавіць у Беларусі да сярэдняй зарплаты па краіне, каб выйсці на намінальную налічаную зарплату 500 $.

Нягледзячы на існуючыя праблемы ў эканоміці і пераход пагоршыўшыхся беларуска-расійскіх адносін у стадыю сапраўднай інфармацыйнай вайны – гэта цяпер галоўная задача ўрада краіны і ўпраўленцаў на месцах. Дзеючы кіраўнік дзяржавы яшчэ летась у снежні даваў такое сваё патрабаванне да падначаленых, а падчас нядаўняй рабочай паездкі па Гомельшчыне паабяцаў абавязкова павысіць зарплату да такой адзнакі.

Праўда, раней вясной 2008 года А. Лукашэнка ўзгадваў нават аб зарплатах 700 $ як галоўнай умове стабілізацыі грамадства. Напярэдадні новых прэзідэнцкіх выбараў беларускі лідэр абяцае ўжо ў аграгарадку Холмеч электарату ў далейшым падцягнуць узровень заробкаў беларусаў да сярэднееўрапейскіх. Аб гэтым шырока паведамілі айчынныя тэлеканалы і напісалі дзяржаўныя газеты. Аднак у краінах Еўрасаюза ў перыяд крызісу сярэдняя зарплата набліжаецца да 2 тысяч $ у месяц.

Нам жа яшчэ да рубяжа 500 долараў трэба неяк падцягнуцца ўслед за Мінскам, дзе летам выканалі гэту адказную праграму "500 у. а.", аб чым адрапартавалі Мінгарвыканкам. Але па словах кіраўніка дзяржавы, ён нават не думае, што недзе могуць не даць штогод даць да зарплаты 10-20, і плануе ў наступным годзе ў 2 разы павялічыць зарплаты нізкааплатным пакуль работнікам у сельскай гаспадарцы, сферах адукацыі, аховы здароўя. Такія перспектывы чакаюць настаўнікаў, урачоў, нянечак, выхавальнікаў у дзіцячых садках. "Вырастет средняя зарплата по стране, тогда у людей настроение будет" – сказаў, нібы адрэзаў, Прэзідэнт.

Можа так яно і будзе, але ж у 2011 годзе Беларусі патрэбна пачынаць выплату працэнтаў па раней набраных замежных крэдытах. Адшукваць такія дадатковыя рэсурсы на павышэнне заробкаў стане яшчэ складаней, чым цяпер. А яшчэ вельмі верагодна істотна павысіцца цана закупляемага намі ў Расіі прароднага газу і нафты. Такая сітуацыя зусім не тая, як была 2 гады назад у дакрызісны час, калі за год удалося падняць зарплату на 80 $ і ў канцы снежня 2008 года мець па краіне налічаную зарплату 403,5 $. Але нават тады беларусы па ўзроўню даходаў значна саступалі саюзнікам-расіянам (амаль 700 $).

У той момант казахі пераадолелі рубеж 500 долараў, літоўцы наблізіліся да 1000, а палякі пераадолелі паказчык 1500 $. Вось толькі шчасце, як і долары мають моду быць недаўгавечнымі. Ударыў крызіс, беларускі рубель імкліва абваліўся і страціў сваю вагу, і каб не той жа МВФ, нацыянальныя грошы маглі дэвальвіраваць да зусім сціплай адзнакі. Нават афіцыйная статыстыка перастала тады лічыць заробкі суайчыннікам у доларах. Так лічыце самі, ці ўдасца сёлета спрацаваць нават лепей,чым у 2008 годзе, самым спрыяльным па выніках для беларускай эканомікі.

Калі ацэньваць сітуацыю аб'ектыўна, то трэба зазначыць, што беларускі экспарт не такі ўжо шырокі, залежыць у значнай ступені ад экспарту і перапрацоўкі нафтапрадуктаў. Без знешняга фінансавання нам усё цяжэй вырашаць галоўныя задачы, маючы абмежаваныя валютныя рэзервы на фоне пагаршэння адносін з галоўным гандлёвым партнёрам – Расіяй. У нас чамусьці назіраецца шмат неапраўданага аптымізму, смелых абяцанняў і планаў. На практыцы далей слоў справы не ідуць, бо супрацьілуецца айчынная бюракратыя, зацягваецца праца над прыняццем ліберальных законаў.

І нарэшце, самае галоўнае: у беларускага кіраўніцтва адсутнічае палітычная воля на правядзенне рэальных рынкавых рэформ, да жыцця па еўрапейскіх стандартах і каштоўнасцях. Магчыма, у вялікіх гарадах будзе прасцей павысіць заробкі працаўнікам, а вось у глыбінцы рэзка пашырыць свае рынкі збыту вытворцам вельмі складана, а то і проста немагчыма ў бліжэйшы час. Тым часам дэлегацыя Беларусі пачала перамовы аб размяшчэнні еўрабондаў з інвестарамі ў Еўропе па прыцягненню да 3 млрд. $ у 2010-2011 гадах. І ўсё б магло быць добра, але пакуль крэдытныя рэйтынг Беларусі не надта высокі, сітуацыя ў шэрагу краін ЕС няпростая ў эканоміцы. Знайсці багатых інвестараў цяпер не так проста, як было яшчэ некалькі гадоў назад...

# Ігнапаль і яго ваколіцы




*У працяг тэмы, распачатай ў «ВГ» №27 (535) за 8 ліпеня 2010 г., № 28 (536) 15 ліпеня 2010 года, №30 ліпеня2010 года.*

■ **Генадзь Комель**

С часоў падзей на чыгуначнай станцыі, а гэта было 17.08. 1943 года, вось ужо 67 год у мяне няма супакою, бо не выбудоўваўся лагічны ланцужок тых дзён. Па-першае, розныя крыніцы інфармацыі і розныя аўтары па-рознаму называлі гэтае вайсковае фармаванне, а таму была блытаніца з датамі і мейсцамі падзеяў.

У мяне ёсць копія дзённіка брыгады Гіля-Радзівонава. Дзённік быў напісаны капітанам Панамарэнкам (памначштаба гэтай брыгады). На аснове матэрыялаў гэтага дзённіка я магу пералічваць колькасны састаў гарнізонаў, іх узбраенне, шматлікія прозвішчы камандзіраў і нават іх біяграфіі. Праўда, камандзіры пераходзілі часта на новыя пасады і ў новыя фармаванні, дзе зменьвалі свае званні і клічкі-прозвішчы (фаміліі). І ўсё ж за столькі год мне ўдалося многае высветліць даволі дакладна. Раю і Вам пачытаць артыкулы на гэтую тэму: "Искушение кровью" доктара гістарычных навук Аляксандра Хацкевіча, "Молат і накавальня вайны" доктара гістарычных навук Уладзіміра Лемяшонка, "Аперацыя "Пераход" – падборка матэрыялаў Андрэя Заеркі.

Падчас працы над артыкулам "Рэйкавая вайна" для БелСЭ П.К. Панамарэнка, былы начальнік Цэнтральнага Штаба партызанскага руху, адказаў Лемяшонку, што Уладзімір Гіль-Радзівонаў – "гэта наш чалавек", што ў свой час ён раскажа пра Гіля-Радзівонава. Але кніга Пантелеймона Кандратавіча "Усеагульная барацьба у тыле нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 – 1944 гады", якая выйшла ў 1986 годзе, абыйшла абсалютным маўчаннем імя Гіля Радзівонава.

У 1968 годзе ў драўляным дамку па Другому завулку Шчадрына (гэта раён Камсамольскага возера г. Мінска) я жыў на кватэры ў Фёдара Фаміча Дуброўскага, Героя Савецкага Саюза, былшага камандзіра партызанскай брыгады імя Дубава. За дашчатымі перагародкамі (застольнымі перамовамі) не схаваешся – чуваць усё. Ды й мае распыты, відаць, зацікавілі Фёдара Фаміча. А калі даведаўся, што у 6-х – 7-х класах маім выкладчыкам рускай мовы і маім класным кіраўніком быў Юрчанка Іван Кірылавіч, родны брат камандзіра брыгады "Кастрычнік", а маім фізруком у 8-х – 10-х класах быў Акайкін Аляксей Васільевіч, камандзір атрада "Бальшавік" першай брыгады "Імя Суворава", тут ужо размовы сталі частымі і цікавымі. Але размова "адзін-на-адзін" – гэта не паперка, да справы не падшыеш.

А вось у сучасны момант яшчэ жыве ў Плешчаніцах Галіна Іванаўна Полсычова, якая добра ведала камандзіра брыгады "Жалязняк" Ціткова і справы брыгады. Во ў каго тэрмінова патрэбна браць інтэрв'ю па матэрыялах тых часоў. Тым больш, што ў яе ёсць цікавыя асабістыя назіранні (не па падручніку), асабліва ад сустрэч з трыма Героямі Савецкага Саюза па справе Кубэ. На гэтую тэму асабіста мяне вельмі здзівілі яе расказы.

Бачыце, якая атрымліваецца "Карусель". Пачаў "датошна" вывучаць брыгаду Гіля-Радзівонава і выйшаў на цікавых асоб і цікавыя падзеі. Але праца з архівамі робіць з кожным годам усё новыя адгалінаванні гэтай тэмы.

У 1962 годзе, так атрымалася, гэта ўжо асабістая тэма, каб не змарнаваць яшчэ год-два з жыцця без вучобы рашыўся паступіць у Друйскае вучылішча меліярацыі. На кватэру ў Друі ўладкаваўся па пісьму-рэкамендацыі да далёкай сваёй радні – старушкі па прозвішчу Ворсла. Хутка разнеслася, што я – радня такой паважанай і набожнай жанчыны. Вось і пайшаў раскручваць матэрыял Росіцкай трагедыі. Атрымліваецца, што я распачаў распрацоўваць гэты матэрыял намнога раней, чым Ірына Францаўна Жарнасек (дзявочае прозвішча – Балабан), якая напісала цудоўную кнігу "Будзь воля Твая", бо Ірына Францаўна закончыла школу ў 1969 годзе.

Мой матэрыял па гэтай тэме больш гістарычны, так бы мовіць – другі бок медаля. Цікавы матэрыял, звязаны з Росіцкай тэмай па Сар'янскаму падполлю у Сяргея Панізніка.

Як паведаміў мне Шадурскі Віктар Генадзьевіч, ён рыхтуе да друку дзённік свайго бацькі, дзе вельмі цікавыя матэрыялы па партызанскаму падполлю вёскі Сар'я.

На базе невялікай Сар'янскай падпольнай групы быў утвораны ў ліпені 1942 года партызанскі атрад імя А.Я.Пархоменкі брыгады імя ЦККП(б)Б. Аднаго з камандзіраў атрадаў Саўку Канапельку я ведаў асабіста, калі ён пасля вайны працаваў старшынёй калгаса "Парыжская камуна" ў вёсцы Папшычы, а я працаваў кінамеханікам на калгаснай стацыянарнай кінаўстаноўцы. У сучасны момант у памяшканні былых калгасных канторы і клуба дзейнічае касцёл, зроблены намаганнямі ўжо пакойнага ксяндза Булькі. Вечны яму супакой!

Кватараў я ў Папшычах у Андрэя Петрагі, сын якога жыве ў сучасным Глыбокім. Дык вось, Андрэй многа расказваў аб сваіх сустрэчах з Вітвіцкім, які падчас нямецкай акупацыі быў намгебіткамісара ў Глыбокім. Я асабіста сустрэўся з Вітвіцкім ў 9-ці – 10-ці гадовым узросце хлапчуком у вёсцы Узрэчча. У Мінску ў дадзены момант яшчэ жывы Іваноўскі са сваёй жонкай, які многа мне расказваў аб Вітвіцкім. Наогул, сабраўся цікавы матэрыял, якім зацікавіўся Аляксей Міхайлавіч Літвін, загадчык аддзелам ваеннай гісторыі АН РБ. Мо, удасца што-небудзь надрукаваць.

Але вернемся ўсё-такі да спраў развіцця беларускай мовы падчас нямецкай акупацыі. Хачу распачаць з таго, што мой сусед з хутара Махавік Лось Кастусь у 1942 годзе пісаў у нашай хаце на хутары Ігнапаль тэстамэнт. Чаму тэстамэнт, па-расейску – «завещание», – я і сёння толкам не вытлумачу. Але ж ён цалкам быў напісаны на беларускай мове. І зацверджаны пячаткай на беларускай мове. Да гэтага часу ўжо ў вёсках былі складзеныя пахатнія кнігі, у якіх былі занесены прозвішчы ўсіх гаспадароў і выдадзеныя штосьці кшталту пашпартоў, зразумела, на беларускай мове. У іх абавязковым быў чарнільны адбітак вялікага пальца рукі.

Вось гэтыя вышэйзгаданыя дакументы ўратавалі хутары Махавік, Марцянова і ваколіцы ад лёсу новай Хатыні.

# Псуі – 570

**Цытата з даследавання Васіля Вароніна «Палітычны лад Полацкага ваяводства ў першай палове XVI ст.»**

«Васіль Корсак меў двух сыноў: Астафія і Зіновія. Мяркуючы па тым, што Астафій намнога раней уключыўся ў палітычную дзейнасць, старэйшым быў менавіта ён.

Астафій Корсак вядомы па дакументах з 40-х г. XV ст. У 1440 г. ён атрымаў ад Казіміра 6 чалавек «даннікаў» на Псуі[94]. Праз нейкі час пасля смерці Свідрыгайлы Корсакі вярнуліся на Полаччыну і паступова занялі свае ранейшае становішча. У 1458 г. Астафій Васілевіч ужо ездзіў у якасці полацкага пасла ў Рыгу. У 1465 г. ён разам з сынам яшчэ раз наведаў Рыгу. Пра вельмі высокае становішча Корсака ў Полацку сведчыць яго ліст, накіраваны ў Рыгу каля 1470 г. У ім Астафій Васілевіч называе рыжскага бургамістра Ганса Зальтрумпа «братам сваім мілым». Гэта, на думку Г.Л. Харашкевіч, сведчыць пра тое, што Астафій Корсак займаў у Полацку становішча, блізкае да становішча бургамістра ў Рызе. Паводле яе меркавання, сваю палітычную вагу пан Астафій атрымаў у спадчыну ад бацькі».

Крыніца: 94 Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. Москва, 1980. Вып. 1. С. 168-170.

*Фота Ул. Скрабатуна*



Возера Псуя і старадаўні парк у вёсцы Псуя.

# У Беларусі ўпершыню зафіксаваны тарнада

Відавочцы зафіксавалі тарнада ў раёне вёскі Цітаўкі пад Бабруйскам. Як піша газета «Могилевские ведомости», з'ява была зафіксаваная ў адзін з ліпеньскіх дзён.

Відавочцы кажуць, што падчас тарнада, усё вакол рэзка пацямнела, сонца закрылася пылавой хмарай. Ад смерча ішоў ледзяны холад. Слуп тарнада ўзняў і перанёс на іншае месца некалькі валуноў вагой каля трыццаці кілаграмаў. Затым тарнада перамясціўся да лесапасадкі, зламаў некалькі дрэваў і знік.

Па звестках метэаролагаў, гэта першы зафіксаваны тарнада ў Беларусі.

Тарнада характэрны для тэрыторый, на якія ўплывае вільготны трапічны клімат. Што іх выклікае – да канца не ясна. Слуп, які нішчыць і ўсмоктвае ўсё, што сустракае на шляху, утвараюць паветраныя масы, якія рухаюцца з рознай хуткасцю на рознай вышыні. Каб разабрацца ў механізме



ўтварэння дэтальна, трэба трапіць усярэдзіну слупа. Амерыканскія навукоўцы распрацоўваюць для гэтага спецмашыну, накшталт танка, але дастаткова хуткую, каб дагнаць тарнада. (Хуткасць яго руху — 40–65 км/г.)

*Паводле Еўрарадыё*

## 100-год Задарожскаму касцёлу

15 жніўня 2010 года, у дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, касцёл у Задарожжы будзе адзначаць 100-гадовы юбілей. А 13-ай гадзіне адбудзецца ўрачыстая Святая Імша, якую будзе цэлебраваць кс. біскуп Уладзіслаў Блін і шматлікія святары. Пад час гэтай Святой Імшы адбудуцца дыяканскія пасвячэнні. Пасля імшы – канцэрт, прысвечаны 100-годдзю касцёла.

Сардэчна запрашаем усіх прыняць удзел у гэтых урачыстасцях, а асабліва тых, хто ў гэтым касцёле прымаў святыя сакраманты.

*кс. Эдвард Нарадоўскі, пробашч парафіі Маці Божай Ласкавай у Задарожжы.*

# Наш аўтар наведаў БАЖынкі

## «БАЖынкі-2010», альбо "Апошні з магікан"

**БАЖынкі, натуральна, не Дажынкі. Сэнс слова закладзены ў першых трох літарах (абрэвіятуры). БАЖ – Беларуская Асацыяцыя Журналістаў. Ужо трэці год запар беларускія журналісты ладзяць свой фэст. Сёлета ў Валожынскім раёне. Туды ездзіў Яўген Самсонаў.**

■ Я. Самсонаў



Андрэй Аляксандраў



У маляўнічым урочышчы Барок Валожынскага раёна 30 - 31 ліпеня адбыўся трэці фэст "БАЖынкі – 2010", альбо "Апошні з магікан"

Пасля ўсталявання намётаў і смачнага абеду адбылося ўрачыстае адкрыццё фэсту. Падзяліўшыся на чатыры плямёны, "папарацы-індзейцы" спаборнічалі ў перацягванні канату, футболе, дартсу. Купаліся ў рэчцы Яршанка. Бліснулі ведамі і інтуіцыяй у інтэлектуальных гульнях: "Што, дзе, калі?", "Інфармацыйная мафія".

Паколькі прафесія журналіста знаходзіцца ў самым пачатку спіса небяспечных, госця з Украіны, Аксана Раманюк, правяла майстар-клас па бяспецы журналістаў, пасля чаго адбылася прэзентацыя каманд "Свабода творчасці".

Пасля вячэры, аб'яднаўшыся ў адну дружную сям'ю, "магікане" ажно да самага ранку весяліліся, спявалі і танчылі сярэдневяковыя танцы пад акампанемент дуды, барабана і скрыпкі, гаспадара сядзібы Алеся Лася.

Насычаны цікавымі мерапрыемствамі быў і другі дзень фэсту. А якая смачная была юшка, падрыхтаваная па асабістаму рэцэпту сапраўдных умельцаў гэтай справы, спадарамі Уладзімірам Дзюба і Аляксандрам Кокташам.



Пры падвядзенні вынікаў фэсту, па агульнай суме балаў за конкурсныя віды спаборніцтваў, першае месца атрымала каманда "Red Bulls", другое – "Балбатлівая БАЖаніца", трэцяе месца падзялілі "Зялёныя магікане" і "Чорны Дзяцел".

"Міс БАЖынак-2010" прызнана Алена Суравец, а "Містарам БАЖынак-2010" – Сяргей Балай. Андрэй Сініцын заваяваў званне лепшага футбаліста, а Зміцер Яненка атрымаў суцяшальны прыз за самаахвярнасць. У розных намінацыях былі ўзнагароджаны і іншыя ўдзельнікі фэсту.

# Сучасны падлетак – гэта здаровы падлетак!

## За здаровы лад жыцця

■ Юлія Шарабайка, г. Глыбокае

**Часта ідзеш па вуліцы і бачыш: ідуць насустрач падлеткі, у якіх у адной руцэ цыгарэта, а ў другой -бутэлька піва. І гэта наша будучыня. Яшчэ О.Фарэль казаў: «Алкаголь – самы заклятыя вораг будучыні чалавечага роду.»**

Чалавек і шкодныя звычкі- гэта надзённая тэма нашага часу і наогул усёй гісторыі чалавецтва. Хоць пра гэта шмат кажуць, але некаторыя падлеткі зусім не звяртаюць на ўсё сказанае ніякай увагі. Прывяду прыклад: аднойчы я наведала лекцыю пра шкодныя звычкі. Пасля лекцыі, выйдучы на вуліцу, я ўбачыла, як хлопчыкі, якія сядзелі ў зале, закурылі і пайшлі, абмяркоўваючы і смеючыся над лекцыяй. Для каго ж яна была прачытана? Але тым не менш, я лічу, што лекцыі такія трэба чытаць і пабольш, бо не ўсе ж такія, як гэтыя падлеткі. Можа камусьці гэтыя лекцыі дапамогуць сабраць усю волю ў кулак і ўраз скончыць са сваімі шкоднымі звычкамі. Я лічу, што па тэлевізары павінны прапагандаваць здаровы лад жыцця, а не рэкламаваць піва, гарэлку і розныя маркі цыгарэт.

Аказваецца: калі чалавек курыць у дзень ад 1 да 9 цыгарэт, то скарачае сваё жыццё (у сярэднім) на 4,6 гады ў параўнанні з тымі, хто не курыць; ад 10 да 19 цыгарэт - на 5,5 гады; ад 20 да 30 цыгарэт - на 6,2 гады.

Устанавілі, што людзі, якія распачалі курыць да 15-гадовага ўзросту, паміраюць ад рака лёгкіх у 5 раз часцей, чым тыя, хто пачаў курыць пасля 25 гадоў.

Тыя, хто доўга і шмат курыць, у 13 раз часцей захворваюць стэнакардыяй, у 12 раз - інфарктам міякарда, у 10 раз - язвай страўніка і ў 30 раз - ракам лёгкіх.

Няма такога органа, які б не паражаўся тытунем: ныркі і мачавы пузыр, палавыя залозы і крывяносныя сасуды, галаўны мозг і печань.

Навукоўцы высветлілі, што курэнне ў 2 разы небяспечней для арганізма, які расце, чым для сталага. Смяротная доза для сталага чалавека ўтрымоўваецца ў адным пачку цыгарэт, калі яе скурыць адразу, а для падлетка досыць паловы. Былі нават зарэгістраваны выпадкі смерці падлеткаў ад запар скураных 2 - 3 цыгарэт - з-за рэзкага атручвання жыццёва важных цэнтраў, у выніку якога настала прыпыненне сэрца і спынілася дыханне.



Сэрца ў курыльшчыка робіць у суткі на 15 тысяч скарачэнняў больш, а сілкаванне арганізма кіслародам і іншымі неабходнымі рэчывамі адбываецца горш, бо пад уплывам тытуню крывяносныя сасуды ў падлеткаў сціскаюцца.

Вось чаму ў курыльшчыкаў слабей памяць, вось чаму сярод іх часцей сустракаюцца непаспяховыя вучні.

Навукоўцы высветлілі, што ў тытуні ўтрымоўваецца шмат атрутных рэчываў. Сярод іх найболей вядомы нікацін: па сваёй атрутнасці ён роўны сінільнай кіслаце.

Вокіс вугляроду (угарны газ) уступае ў злучэнне з гемаглабінам, які з'яўляецца пераносчыкам кіслароду. Пры курэнні адбываецца рэзкае памяншэнне ўтрымання кіслароду ў крыві, а гэта вельмі цяжка пераносіць галаўны мозг падлетка. Аміяк раздражняе слізістую абалонку рота, гартані, трахеі, бронхі. Вось чаму ў курцоў не рэдкасць рыхласць дзёсен, язвачкі ў роце, што прыводзіць да ўзнікнення ангін. Ад працяглага курэння адбываецца звужэнне галасавых звязак, з'яўляецца асіплась голасу.

У апошнія гады навукоўцы надаюць пільную ўвагу рэчывам, якія выклікаюць рак. Да іх у першую чаргу адносяць бензапірэн і радыёактыўны ізатон паланій-210. Калі курэц набярэ ў рот дым, а затым выдыхне яго праз хустку, то на белай тканіне застанецца карычневая пляма. Гэта і ёсць тытунёвы дзёгаць. У ім асабліва шмат рэчываў, якія выклікаюць рак. Калі вуха труса некалькі разоў вышмараваць тытунёвым дзёгцем, то ў жывёлы ўтворыцца ракавая пухліна.

Цяжка нават пералічыць шкодныя рэчывы, якія змяшчаюцца ў тытуні, бо іх налічылі амаль 1200!

Аказалася таксама, што на арганізм дзяўчынак тытунь дзейнічае значна мацней: «вяне скура», хутчэй сіпне голас.

За апошнія дзесяцігоддзе навукоўцы высветлілі, што ў людзей, якія не кураць, сталі выяўляцца хваробы, уласцівыя курцам. Прычына? Людзі, якія не кураць, працяглы час знаходзіліся ў памяшканні разам з курцамі. Пры курэнні ў арганізм чалавека пранікае 20 - 25% атрутных рэчываў, а 50% разам з выдыханым дымам пастулаюць у паветра. А ім дыхаюць акружаючыя. Атрымліваецца, што людзі, якія не кураць, «кураць». З'явіўся нават адмысловы тэрмін - «пасіўнае» курэнне.

Нават у ЗША, пры вялікім аб'ёме тытунёвай рэкламы, дзясяткі мільёнаў амерыканцаў кінулі курыць. Тое ж самае адбываецца ў Англіі, Швецыі, Фінляндыі. Нарвегія цвёрда вырашыла стаць нацыяй, якая не курыць.

А як жа мы падыдзем да гэтай праблемы? Будучае нашых дзяцей і наступных пакаленняў у нашых руках. Дык зробім так, каб гэтыя рукі ніколі не трымалі цыгарэты. Я рада, што зараз становіцца модным і прэстыжным быць здаровым. Я хачу, каб сучасная моладзь разумела гэта і замест бараў наведвала спартыўныя клубы і розныя секцыі. Сучасны падлетак – гэта здаровы падлетак!

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# УВАГА: ЯГАДНІКІ!

Жнівень-верасень – месяцы збору ўраджая, месяцы, калі людзі падводзяць прамежкавыя вынікі сваёй працы. Нягледзячы на гарачае лета, у лясах спеюць ягады: брусніцы, журавіны, растуць грыбы, і людзі карыстаюцца дарункамі лесу ў поўным аб'ёме.

Колькі не кажуць, не пішуць пра тыя варварскія спосабы збору ягад камбайнамі, якія адміністрацыйныя меры не ўжываюцца да парушальнікаў, але іх менш не становіцца. Штотыдзень супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымоўваюцца грамадзяне, якія бязлітасна знішчаюць камбайнамі ягаднікі і толькі з адной мэтай, зарабіць грошай, а заўтра няхай хоць воўк траву есць. Пры затрыманні ўсе плачуць і кажуць, што парушылі закон у першы раз, просяць зразумець становішча, ягады збіралі для сябе, але ці можна паверыць чалавеку, калі ягады ў вядры напалову з лісцем і сукамі.

**Рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта ад 12 ліпеня 2010 года № 564 «Пра тэрміны збору брусніцаў і журавінаў» усталяваны тэрміны пачатку збору ягад брусніц і журавін на тэрыторыі Віцебскай вобласці.**

**Збор ягад брусніцы дазволены з – 21 жніўня, журавіны з – 11 верасня. Грамадзяне, якія парушалі паказаныя тэрміны збору ягад брусніц і журавін або ажыццяўлялі збор ягад забароненымі метадамі і прыстасаваннямі (грабянцы, камбайны і г.д.) будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці па ч.2 арт. 15.26 Ко АП РБ, якая прадугледжвае адказнасць у выглядзе папярэджання ці штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь, з пакрыццём прычыненай шкоды, за кожны кг сабраных ягад 2,2 базавыя велічыні ці 77 000 рублёў.**

Падчас правядзення рэйдаў па лясах заўсёды зважаеш на месцы стаянкі аўтамашын у лесе. Вакол раскіданыя пластыкавыя бутэлькі, побытавае смецце, рэшткі ежы. Хутка нашы лясы ператворацца ў звалкі. Людзі, задумайцеся, што Вы робіце, няўжо ў сябе ля хаты Вы гэтак жа выкідваеце смецце.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз заклікае грамадзян да выканання прыродаахоўнага заканадаўства.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі дзякуюць грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў працы і неабыякавых да захавання нашай прыроды.

Тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.


**Брусніцы**

**Няма такой прыгажосці ў Мінску! А вось у Каралевічах пад Глыбокім – ёсць!**

Мінскія экскурсанткі не абмінулі магчымасці зладзіць «фотасесію» на кружэлках калгаснай саломы.

*Фота Ул. Скрабатуна.*



## У Кармянскім раёне браканьер, хаваючыся ад прыродаахоўных інспектараў, спрабаваў збіць іх аўтамабілем

У Кармянскім раёне браканьер, хаваючыся ад прыродаахоўных інспектараў, спрабаваў збіць іх аўтамабілем.

Як паведаміў БелаПАН начальнік Гомельскай абласной інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Вячаслаў Рогаль, у дачыненні да парушальніка распачата справа па арт. 366 Крымінальнага кодэкса насілле ці пагроза ў адносінах да службовай асобы, якая выконвае службовыя абавязкі, ці іншай асобы, якая выконвае грамадзянскі доўг.

Паводле слоў Рогаля, браканьер, мясцовы жыхар, раней затрымліваўся работнікамі Кармянскай міжрайінспекцыі за незаконную здабычу рыбы сеткамі.

Гэтым разам падчас затрымання ён не падпарадкаваўся патрабаванню спыніцца для разбору і знік на ўласным аўтамабілі «Фольксваген-Пасат», імкнучыся збіць дзяржінспектара і начальніка міжрайінспекцыі. «Калі б інспектары не адскочылі, яны маглі б быць сур'ёзна траўмаваныя. Парушальнік знік, але падчас аперацыі «Перахоп» быў затрыманы», дадаў начальнік інспекцыі.

Паводле ч. 1 арт. 366 КК, вінаватыя караюцца штрафам, ці папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, ці арыштам на тэрмін да шасці месяцаў, ці абмежаваннем волі на тэрмін да пяці гадоў, ці пазбаўленнем волі на тэрмін да пяці гадоў.

*Алена Германовіч, БелаПАН.*

■ **Ул. Скрабатун**

# Ізноў непарадак?

Яшчэ гадоў дзесяць таму аўтар гэтых радкоў вельмі часта прыязджаў, альбо прыходзіў на месца падзеяў… Тэлефануе, напрыклад, адна спадарыня і скардзіцца на суседзяў: "Прыедзьце, паўплывайце на іх! Засмецілі сваю і нашую тэрыторыю, развялі бардак…Смурод наўкола!"

Прыязджаеш і гутарыш з "вінаватым" пра культуру, а яна (ці ён) у адказ кажа:

– Тут табе не Латвія і не Літва! Гэта ў іх – культура! Патрэбная табе культура? Едзь у Прыбалтыку жыць! Тут – Беларусь, і культура нам не патрэбная! Нам, галоўнае: каб хлеб і малако было ў магазіне і не было вайны!

Вы думаеце, што гэта адзінкавы выпадак! Не! Кожны год, асабліва летам, па 4-5 падобных тэлефанаванняў. А колькі іх было за ўсю гісторыю нашай газеты. І ў адказ – заўсёды пытанне:

– Культуры захацеў?

Тэлефануе ў мінулы панядзелак адна спадарыня, жыхарка мікрараёна МКК:

– Вось вы ў мінулым нумары пісалі пра непарадак са смеццевымі кантэйнерамі, якія ўсталявалі насупраць дома №107-А… Дык, ведаеце, іх адтуль прыбралі і перанеслі бліжэй да месца, дзе раней стаяла школьная качагарка. Сам архітэктар мерыў і вызначыў, дзе мусяць яны цяпер стаяць. І паставілі ўжо перад нашымі вокнамі! І што нам цяпер рабіць? Глядзець з вокнаў на гэтыя кантэйнеры і нюхаць смурод? Не гатовы яшчэ наш народ да кантэйнераў! Чамусьці мы можам пачакаць смеццявоза і вынесці смецце ў вядры ды высыпаць, а некаторыя – лайдакі – не могуць! Ім падавай кантэйнеры і яны будуць насіць смецце туды з раніцы да ночы! Куды нам цяпер ісці скардзіцца, падкажыце?

У вышэйзгаданым маналогу ёсць ключавая фраза: "Не гатовы яшчэ наш народ да кантэйнераў!" А гэта значыць – не гатовы яшчэ да культуры! Так! Згодзен! І вышэй пра тое самае напісана! "Тут – Беларусь, і культура нам не патрэбная!"

Аўтар пераканаы – пакуль не будзе ў нашага народа КУЛЬТУРЫ з вялікай літары, то пра культуру з малой літары – ў панадворку – няма чаго й разважаць.

Мы жывём з чужой культурай і з чужым менталітэтам. Усё мы пазычылі ў суседзяў з Усходу. Свайго нічога няма! Акрамя, хіба што, зямлі, па якой ходзім. Мы пагарджаем сваёй мовай, якая па меладычнасці – другая ў свеце пасля італьянскай, мы забыліся пра свае традыцыі, не ведаем гісторыі сваёй краіны, добра, калі свой радавод ведаем ад бабулі і дзядулі. Дык адкуль можа быць КУЛЬТУРА, калі няма гонару за свой народ? Нехта скажа:

– Начальства павінна сачыць за парадкам!

А начальства з якога народу выйшла?

Дык ці патрэбныя кантэйнеры для смецця?

Адназначна – патрэбныя! Інакш шмат хто не будзе чакаць смецціявозаў, а ў багажніках сваіх аўто павязе смецце … ў возера Бяглец, у возера Кагальнае, у бары і гаі. І возьць ужо даўно!

Роўна год таму пайшоў адпачываць на возера Бяглец. Аднак, неўзабаве, стала відавочным, што "трэба зматваць вуды". Насунулася чорная хмара, загрымела, заблiскала. Я – пад дрэва, якое ля самай вады. Але месца там не знайшлося, бо была вялікая куча смецця: пластыкавыя бутэлькі, бітае шкло, усялякае жалеззе. Гэта ссыпана ў возера, дзе адзін з гарадскіх пляжаў! А пра возера Кагальнае і казаць няма чаго! Гэта калі не гарадская, дык мясцовая (лакальная) звалка. Дастаткова прайсціся вакол возера ў час, калі ўжо стаяў снег. На лёдзе, каля берага, вы ўбачыце ўсё, што заўгодна: пральныя машыны, халадзільнікі і калёсы ад "Беларуса"… Потым – нічога няма, бо растаяў лёд і ўсё апусцілася на дно.

Кантэйнеры ў мікрараёнах патрэбныя! Аднак, спадарыня, якая тэлефанавала, сцвярджае: "Не гатовы яшчэ наш народ да кантэйнераў!"

Перад тым, як пісаць гэты матэрыял, аўтар "праштудзіраваў" інтэрнэт на тэму смецця. Аказваецца, і ў Маскве, і ў Пецярбургу кантэйнеры ў дварах стаяць! Некаторыя сметнікі афармленыя як малыя архітэктурныя формы. Прыгожа! І не бачныя смеццевыя кантэйнеры з вакон і балконаў (гл. здымак). Смуроду, праўдападобна, там не чуваць, бо вывозяць смецце аператыўна.



А што рабіць нам? Выхоўваць культуру! Напэўна, і штрафаваць, як у Гродне! Кінуў шкляную бутэльку ў кантэйнер, дзе мусяць быць толькі пластыкавыя бутэлькі – плаці штраф! Раздзельнае складаванне смецця мае свае перавагі: пластык можа пачакаць, а вось харчовыя адыходы, каб не смуродзілі, можна тады вывезці аператыўна.У нас жа скідаюць усё ў адну кучу: і пластык, і жалеззе, і харчовыя адыходы.

Шкада, але у Глыбокім няма вытворчасці па перапрацоўцы пластыка. Кажуць, што з пластыкавых бутэлек можна вырабляць і гаршкі для кветах, і пластыкавы шыфер, і яшчэ нешта. З гэтага гледзішча Глыбоцкая ЖКГ магла б мець нейкі, нават, прыбытак, калі б сама арганізавала такую вытворчасць. Альбо нехта іншы, а ЖКГ прывозіла б пластык са сметнікаў гэтаму перапрацоўшчыку.

Трэба дзякаваць Богу, што на Беларусі, у гэтае спякотнае лета, хоць зрэдку ідуць дажджы. Нас абмінула тая бяда, якая цяпер апанавала еўрапейскай часткай Расіі. Там пажары! А што будзе наступным летам у нас? Кінутая ў лесе шкляная бутэлька спрацоўвае на сонцы, як лінза. І лес – гарыць!

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

9 – 15 жніўня 2010 г.







## ПАНЯДЗЕЛАК, 9 жніўня





**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро,Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** Видеофильм АТН « Т-человек, необузданные».
**09.05** «Для Элиты спецназа»
**09.35** Здоровье.
**10.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Ищу гражданского мужа».
**11.00 «Не родись красивой»**.
**12.10 «Сделано в Америке»** (США).
**14.10** «Леонид Быков. Пришелец».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25 «Молоды и счастливы»**.
**16.25 «Всегда говори «всегда»-3»** 8-я серия, заключит.
**17.25 «Не родись красивой»**. 200-я серия,заключительная.
**18.25** «Прости меня».
**18.50, 01.25** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55 «Заколдованный участок»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.55**«Сутки в эпицентре. Хокку живым».
**22.05 «Переговорщик»**.
**00.40 «Герои-3»** (США).
**01.30** День спорта.





**06.00,09.00**Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.00** Премьера. «Раньше всех».
**10.30 «Моя жена меня приворожила»**. Многосерийный.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Мошенники».
**12.05** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50**«Мои друзья. Тигруля и Винни».
**15.30** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Счастливы вместе»**.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.10 «Остаться в живых»**.10-я серия.
**23.05** Наши новости.
**23.20** Новости спорта.
**23.25** «Анатолий Папанов. Обратная сторона славы».
**00.25 «Говорящая с призраками»**.





**01.10** Наши новости.
**01.25-01.35** Новости спорта.





**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда.
**09.35** Сериал **«Любовь как любовь»**
**10.45 «Дорога, ведущая к счастью»**
**12.25** Школа ремонта.
**13.30 «Полюби меня снова»**
**14.25 «Доктор Дог»**
**14.40** Внеклассный час.
**14.50** Простые упражнен.
**15.25 «Налетчики»**
**16.15** Час суда.
**17.20** Врачебные тайны
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.00 «Умножающий печаль»** (Россия).
**20.00 «Спецназ по-русски - 2»**
**21.00** Калыханка.
**21.20 «Универ»** (Россия).
**21.55 «Налетчики»**
**22.45 «Пузырь»**





**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «У парадного подъезда»
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** Концерт Михаила Задорнова.
**15.35** «Звездный ринг».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.40 «ЖИЗНЬ НА ДВОИХ»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25 «В ОСАДЕ»**.





**БЕЛСАТ tv**

**07:00**Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Моўнік
**07:40** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча: «Татарскі смак»
**08:05** Басанож па свеце
**08:35** Побач з намі
**08:50** «Вароніна возера» дак. фільм,
**09:50** Вагон
**10:00 «Таямніца крэпасці шыфраў»**, 6 сер.
**10:45 «Загадкі Мэрдака»**,
**11:30 «Між двух берагоў»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Папялушка»** тэлесерыял: 43 с.
**17:35 «Таямніца крэпасці шыфраў»**, 6 с.
**18:15** «Чырвоны беларус», дак. фільм,
**18:40 «Бульбаны»**, мультсерыял
**18:55** Прэс-экспрэс
**19:15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:30 «Пінгвінік Пік-Пок»**, мультсерыял
**19:40** Еўропа сёння
**20:10** Кулінарныя падарожжы Р.Мак-ловіча: «Смак Малой Літвы»
**20:35** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Пра праўду»
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:45 «Між двух берагоў»**
**23:15** Аб'ектыў

